*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 37 (249)

13 верасня 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

ЯК ЗНІКАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ Стар. 2.

«НАРОДНАЯ ВОЛЯ»: ПЕРШЫЯ КРОКІ Стар. 7.

ДАНОС НА СЯБЕ Стар. 7.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ ВЫДАЎ УКАЗ АБ АБ'ЯДНАННІ АШЧАДНАГА БАНКА З «БЕЛАРУСБАНКАМ».** Указ гэты быў нечаканасцю як для супрацоўнікаў гэтых двух банкаў, так і для ўсіх работнікаў банкаўскай сістэмы, аж да самых высокапастаўленых. І, зразумела, для акцыянераў камерцыйнага «Беларусбанка».

Як сказаў адзін з незалежных экспертаў, на Захадзе пасля такіх падзей банк быў бы проста знішчаны.

○ ***ПА МЕРКАВАННЮ АМЕРЫКАНСКАГА ЖУРНАЛІСТА, ВЫКЛАДЧЫКА КАЛУМБІЙСКАГА УНІВЕРСІТЭТА, БЫЛОГА ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕРА КАМПАНІІ СІ-БІ-ЭС ПІТЭРА ХЕРФОРДА,*** *на Беларусі — самыя жорсткія на тэрыторыі СНД правілы тэлетрансляцыі. «Наўрад ці можна разлічваць на незалежнасць ва ўмовах, — зазначае аўтар, — у якіх дзяржаве паранейшаму належаць усе перадавальныя прыстасаванні і каналы».*

○ **У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ СПІС ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ**, якія зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь і маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У спісе — 34 партыі. Асобна — спіс з 5 партый, якія прадстаўляюць арганізацыі ветэранаў Рэспублікі Беларусь.

○ ***ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А.ЛУКАШЭНКА ПАВІНШАВАЎ УДЗЕЛЬНІКАЎ І ГАСЦЕЙ ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ,*** *якія праходзілі ў старадаўнім Тураве. У віншаванні прэзідэнт заявіў: «І хоць сёння эканоміка Беларусі перажывае не лепшыя часы, я як кіраўнік дзяржавы заяўляю: «Беларускую нацыянальную культуру, культуру ўсіх народаў, якія жывуць на Беларусі, мы будзем падтрымліваць». Дай то Бог!*

○ **У ПАЛІТЫЧНЫХ КОЛАХ АБМЯРКОЎВАЮЦЬ ПРАПАНОВУ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА АБ ПРАВЯДЗЕННІ «КРУГЛАГА СТАЛА» З УДЗЕЛАМ АСНОЎНЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ СУБ'ЕКТАЎ БЕЛАРУСІ.** Дагэтуль так званыя «круглыя сталы» арганізоўваліся выключна недзяржаўнымі структурамі.

○ ***СПОЎНІЛАСЯ 155 ГАДОЎ З ДНЯ ЗАСНАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ АКАДЭМІІ.***

○ **ПА ЗВЕСТКАХ З УПРАЎЛЕННЯ ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНЫХ СУВЯЗЕЙ МІНІСТЭРСТВА ТРАНСПАРТУ РЭСПУБЛІКІ**, з увядзеннем транзітнага падатку павелічэння паступленняў у рэспубліканскі бюджэт не плануецца. Калі за першае паўгоддзе 1994 года ў дзяржбюджэт паступіла 9,18 мільёна долараў, то са студзеня па чэрвень 1995 года — ужо менш як 9,03 мільёна долараў.

○ ***У АДПАВЕДНАСЦІ З РАСПАРАДЖЭННЕМ КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 12 МАЯ 1995 ГОДА*** *на ліквідацыю вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 1995 год выдзелена 1100 млрд. рублёў капітальных укладанняў.*

## Будучыня, на 30% беларуская

Пачаўся новы навучальны год. З гэтай нагоды прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка звярнуўся да педагогаў рэспублікі, вучняў і іх бацькоў з віншаваннямі і пажаданнямі поспехаў у вучобе і працы. Прэзідэнт паабяцаў аказваць усямерную падтрымку народнай асвеце. У прыватнасці, з 1 верасня будзе зноў аднаўлена выдзяленне сродкаў на прэміяванне ўсіх катэгорый педагагічных работнікаў у памеры 10 працэнтаў ад планавага фонду заработнай платы. (Дарэчы, прэзідэнт Расійскай Федэрацыі ў аналагічным звароце паабяцаў настаўнікам, што іх заработная плата ў бліжэйшы час павысіцца ў 1,5—2 разы).

**Не ўсе знаходзяцца, аднак, у святочным настроі, многія бацькі заклапочаныя праблемамі матэрыяльнага характару.** Журналісты паспрабавалі на старонках некаторых выданняў падлічыць кошт «партфеля першакласніка». Лічбы ва ўсіх варыянтах атрымліваюцца ўнушальныя, якія ў некалькі разоў перавышаюць сярэднюю зарплату інтэлігента.

Па звестках з Міністэрства адукацыі і навукі, мяркуецца, што прыкладна 70 працэнтаў бацькоў дзяцей-першакласнікаў адправяць іх у расійскамоўныя класы. Чакаецца змяншэнне колькасці навучэнцаў і ў 2—4 класах з беларускай мовай навучання. Адбудуцца змены і ў аплаце харчавання школьнікаў: яно стане адрасным і будзе выдзяляцца дзецям з сем'яў з цяжкім матэрыяльным становішчам. Здаецца, высветлілася пытанне з падручнікамі: пакуль **настаўнікам дазволілі весці навучанне па існуючых падручніках.**

Сёння ў Беларусі звыш паўтара мільёна **школьнікаў. Ад таго, якія веды, а найперш духоўнае «праграмаванне» яны атрымаюць у школах, залежыць будучыня нашай краіны.**

**У наступным нумары «Нашага слова»** чытайце гутарку з начальнікам галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі **Фяськовым Мікалаем Сцяпанавічам.**

**Л.Ш.**

## «Нёману» ў Чыкага 35 гадоў

Беларуская радыёперадача «Нёман», кіраўніком і адным з заснавальнікаў якой ёсьць Нікадэм Жызьнеўскі, адзначыла 35-цігодзьдзе свайго існаваньня.

З гэтай нагоды губэрнатар штату Ілінoй, Джым Эдгар даслаў кіраўніку беларускіх радыёперадачаў Нікадэму Жызьнеўскаму прывітальны ліст у адзнаку за добрую й доўгагадовую працу ў інфармаваньні беларускіх слухачоў аб усіх справах, кранаючых іх. Губэрнатар пажадаў яму плённай працы ад імя грамадзян штату Ілінoй.

Радыёперадача ўтрымліваецца з дабравольных складкаў сваіх слухачоў. Радыёпраграма, якая ўключае весткі зь Беларусі, агляд прэсы, розныя мясцовыя паведамленьні, перадаецца раз у месяц на ўкраінскай праграме сп-ва Самбірскіх.

**«Беларусь».**

*З нагоды*

## «Гасударава вока бачыць далёка»

Ёсць такая народная прыказка, што вынесена ў загаловак, яна прыгадалася пасля ўважлівага знаёмства з пасланнем прэзідэнта Рэспублікі Беларусь галоўным рэдактарам газет, кіраўнікам інфармацыйных агенцтваў і іншых сродкаў масавай інфармацыі (СМІ) нашай дзяржавы. Выканаўчы кіраўнік знайшоў, што нават у нейкіх тэле- і радыёперадачах нехта прапаведуе нацыяналізм. Сапраўды дзяржаўная вока заўважае тое, што просты абывацель і не прыкмеціць. Бо хутчэй ён бачыць тэлежурналістаў з нейкімі спалоханымі вочкамі, якія з усяе сілы славяць «вертыкальшчыкаў» і «выкрываюць» бэнзэфаўцаў, а заадно лідэраў свабодных прафсаюзаў.

Цяжка зразумець, а ці ўваходзяць у лік крамольных тыя перадачы і публікацыі, дзе прапагандуецца ідэя славянізма. Бо па сутнасці гэтаж сапраўдны круты нацыяналізм і нават імперскі шавінізм.

Журналістаў асабліва парадавала, што такая заклапочанасць аб ідэйнай якасці іхняй творчасці супала са святкаваннем Дня беларускага пісьменства і друку.

**Л.М.**



У вёсцы Люсіна, што ў Ганцавіцкім раёне, захоўваюць добрую памяць пра народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У тамтэйшай школе чатырнаццаты год працуе коласаўскі музей. За гэтыя гады яго наведалі больш за 50 тысяч турыстаў. Апроч беларусаў, тут былі госці з Амерыкі і Расіі, азербаджанцы, кіргізы, немцы, палякі...

Удала падабраны матэрыял распавядае пра настаўніцтва Якуба Коласа ў 1902—1904 гадах.

Больш за дзвесце экспанатаў тагачаснага быту, сабраных у музеі, добра дапаўняюць асноўную экспазіцыю.

**Фота Эдуарда КАБЯКА. Белінфарм.**

АЛЕ!

# Як знікаюць беларусы

## Нацыянальная дыскрымінацыя ў Менскай гімназіі №20

Тры гады таму менская сярэдняя школа № 20 з паглыбленым вывучэннем французскай мовы намаганнямі яе дырэктара Галіны Крэль была ператворана ў беларускую школу-гімназію. Гэтая змена стала толькі адлюстраваннем і афіцыйным замацаваннем статуса школы як навучальнай установы вышэйшага ўзроўню, выпускнікі якой атрымлівалі веды значна больш грунтоўныя, чым навучэнцы звычайных школ, і, зразумела, мелі больш шансаў паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, каб працягнуць там сваю адукацыю. За апошнія гады ў школе адбылася яшчэ адна змена: у ёй былі створаны тры класы, навучанне ў якіх вялося па-беларуску. З'ява гэтая была вартая ўвагі яшчэ і таму, што большасць беларускамоўных школ сёння працуе ў вёсках і дае сваім вучням адукацыю, узровень якой адпаведны назве гэтых школ — сярэдні.

У гэтым годзе пасаду дырэктара школы заняла іншая асоба. Што кіравала новым дырэктарам — тонкае разуменне дзяржаўнай палітыкі альбо асабістыя перакананні, — невядома, але з яго прыходам становішча навучэнцаў беларускіх класаў змянілася, і не ў лепшы бок. У адрозненне ад мінулых навучальных гадоў, набор у беларускія класы гэтым разам вёўся па-іншаму. Замест таго, каб набіраць вучняў у тры першыя класы, бацькам было прапанавана пісаць спецыяльныя заявы з просьбай(!) прыняць іх дзіця ў беларускі клас. Людзей, для якіх навучанне іхніх дзяцей па-беларуску аказалася прынцыповым патрабаваннем, знайшлося 12. Пасля таго 12 дзяцей прайшлі тэст на прыдатнасць да навучання ў спецыялізаванай школе. Асаблівасцю яго было тое, што пытанні беларускамоўным дзецям задаваліся па-расійску, што, зразумела ж, паспрыяла адсеву пяці з іх.

Сямёра першакласнікаў, нягледзячы на створаныя перашкоды, набралі патрэбную дзеля паступлення ў гімназію колькасць балаў і былі пэўныя: першага верасня яны сядуць за парты ў беларускай школе-гімназіі. Радасць іх аказалася заўчаснай: калі былі вывешаны спісы з імёнамі тых, хто паступіў у гімназію, іх там не аказалася. Здзіўленыя бацькі пачулі ад дырэктара школы: беларускага класа ў гімназіі не будзе ў сувязі з недахопам вучняў — замест яго створаны расійскі, а бацькі могуць забіраць свае заявы. Бацькі двух вучняў адразу ж перапісалі свае заявы, у выніку чаго іхнія дзеці пайшлі ўжо ў расійскамоўны клас тае ж гімназіі. Яшчэ трое перавялі сваіх дзяцей у іншыя школы. Трое тых, што засталіся, былі змушаныя наведаць усе ўстановы, кіруючыя сярэдняй адукацыяй, пачынаючы з міністэрства і скончыўшы раённым аддзелам народнай асветы, дзе іхнія заявы аб прыёме дзяцей у беларускі клас ляжалі нікому не патрэбныя, яшчэ за тры дні да пачатку школьнага года!

Што адбываецца ў 20-й школе-гімназіі сёння? Ад бацькоў дзяцей, што там вучацца, мне давялося пачуць: выкладанне значнай часткі дысцыплін — хіміі, фізікі, замежнай мовы ды іншых — нават у беларускамоўных старэйшых класах вядзецца па-расійску — дырэкцыя не мае магчымасці ці папросту не жадае шукаць прафесійна прыдатных, валодаючых моваю настаўнікаў. Колькасць вучняў у другіх беларускамоўных класах — 32 чалавекі. І гэта ў той час як у паралельных расійскамоўных класах вучацца па 15 іхніх аднагодкаў! Першы клас, у якім навучанне вялося б па-беларуску, у гэтым годзе не быў створаны ўвогуле. Адной з падставаў гэтага было абвешчана, што частка дзяцей, што жадалі вучыцца ў гэтым класе, жыла ў іншых раёнах горада. Як ні дзіўна, гэтая прычына не стала перашкодай у фармаванні з дзяцей іншых раёнаў горада расійскамоўных класаў гімназіі.

— Пошук памяшканняў і настаўнікаў для стварэння беларускіх класаў — праблема не бацькоў, а школьнай адміністрацыі. Мы жадаем і будзем вучыць дзяцей па-беларуску. А калі нам даводзяць, што гэта немагчыма, бо ў беларускамоўны клас пададзеныя толькі тры заявы, дык гэта — вынік не абыякавасці бацькоў, а ўціску з боку школьнай адміністрацыі, прадстаўнікі якой нават тэлефанавалі людзям дадому, агітуючы, заклікаючы, просячы іх пісаць заявы ў расійскамоўныя класы. Ёсць мноства людзей, гатовых пісьмова пацвердзіць мае словы. Усё гэта азначае, што адбываецца свядомы націск з мэтай пазбаўлення нас, беларусаў, нашага канстытуцыйнага права навучаць дзяцей на роднай мове. Але ад гэтага права мы не адступімся, чаго б гэта нам ні каштавала, — пачую я ад аднаго з бацькоў навучэнца школы. — Сустракаючыся з бацькамі іншых вучняў беларускіх класаў, я чую: у спецыялізаваных школах сталіцы — музычных, замежных моваў ды іншых — свядома скарачаюцца ці цалкам ліквідуюцца беларускія наборы. Гэта значыць, што нас зноў хочуць сапхнуць на ўзбочыну грамадства, і ў першую чаргу гэта датычыць тых дзяцей, якія маюць лепшае развіццё і прэтэндуюць на атрыманне адукацыі вышэйшага ўзроўню, — сказаў ён пазней.

Што хочацца дадаць да гэтых словаў? Тое, што выраз «сапхнуць на ўзбочыну грамадства» мае дакладны адпаведнік, ужываны юрыстамі, — дыскрымінаваць. Таму працытую дакумент, які, згодна з нашым заканадаўствам, мае перавагу над прававымі актамі, прынятымі ўладамі краю. Гэта — Агульная дэкларацыя правоў чалавека, прынятая Генеральнай Асамблеяй ААН 10 снежня 1948 г.

*Артыкул 2. Кожны чалавек павінен карыстацца ўсімі правамі і ўсімі свабодамі, абвешчанымі гэтай Дэкларацыяй, незалежна ад расы, колеру скуры, полу, МОВЫ, рэлігіі, палітычных ці іншых перакананняў, НАЦЫЯНАЛЬНАГА ці сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага ці іншага стану.*

*Артыкул 26. 1. Кожны чалавек мае права на адукацыю.*

*3. Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду адукацыі сваіх непаўналетніх дзяцей.*

*Артыкул 7. Усе людзі роўныя перад законам і маюць права, без усялякага адрознення, на роўную абарону законам. Усе людзі маюць права на роўную абарону ад усялякай дыскрымінацыі, якая парушае гэтую Дэкларацыю, і ад любога падбухторвання да гэткай дыскрымінацыі.*

**Вучыць дзяцей па-беларуску — не прывілея, а права. Гэта вынікае з дакументаў, падпісаных амаль паўстагоддзя таму нашай краінай — адной з заснавальніц ААН. Але ці стануць гэтыя словы справай хаця б у адной менскай школе?**

У. ПАНАДА.

***Ад рэдакцыі:*** *А ў гэты час шаноўны Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь абвяшчае, што гэта нацыяналісты прапаведуюць русафобію і распальваюць процістаянне ў грамадстве.*

*Меркаванні*

Як і многія мае калегі, я паважаю журналіста Іосіфа Сярэдзіча. Шаную ў ім талент рэдактара, арганізатара газетнай справы. За тое, што непрыяцеляў ідэі незалежнасці Беларусі, развіцця ў краіне дэмакратыі ды сталявання правоў Чалавека, павагі да нацыянальных і агульна цывілізаваных духоўных каштоўнасцей выклікала раздражнёнасць і нават — агрэсіўнасць.

Успомнім пачатак шляху «Народнай газеты». Менш чым за пяць гадоў Іосіф Сярэдзіч і яго паплечнікі (а гэта Іван Макаловіч, Анатоль Казловіч, Сяргей Плыткевіч, Андрэй Юдчыц, Юрый Наяровіч, Аляксандр Класкоўскі, Мікалай Галко ды іншыя вопытныя, таленавітыя журналісты) здолелі заваладаць увагай чытацкай аўдыторыі недзе каля 1,5 мільёна чалавек (пры тыражы за 600 тысяч экзэмпляраў).

І такое — у наш пакручасты час эканамічнага ды іншых крызісаў, калі кожнаму даводзіцца сур'ёзна думаць: або падпісацца на любімае выданне, або купіць зусім не лішні кавалак «мокрай» каўбасы.

Не дзіва, што антыбеларускія, антыдэмакратычныя сілы пастараліся разбурыць гэты фарпост народнай думкі — не зважаючы на Законы і Канстытуцыю, быў звольнены з пасады галоўны рэдактар. Але знайшла каса

## «Народная

камень. Апальны парламентарый і журналіст не прымірыўся з гвалтоўнай адстаўкай. І вось чытачы атрымалі першыя сем нумароў новай газеты Іосіфа Сярэдзіча — «Народнай волі», дзе ён адначасова і заснавальнік, і галоўны рэдактар. Пакуль «НВ» набірае разбег як штотыднёвік, але выпускаецца даволі салідным тыражом — ад 82 да 101 тысяч асобнікаў. 1 кастрычніка 1995 г. «Народная воля» будзе выходзіць штодня. Такім чынам, у інфармацыйнай прасторы Беларусі з'явяецца сур'ёзнае штодзённае незалежнае дэмакратычнае выданне.

Уважліва прачытаўшы першыя выпускі «НВ», я канчаткова пераканаўся: яна мне патрэбна.

Але тут мушу зрабіць невялічкі адступ.

У 60-ыя гады, калі я вучыўся на журфаку Белдзяржуніверсітэта, выкладчыкі тэорыі партыйна-савецкага друку вельмі раздражняліся нібыта прыдуманым заходнімі журналістамі ды палітолагамі міфам пра свабоду друку ў краінах «гнілога» капіталізму-імперыялізму. Асабліва ім не падабаліся тэзісы з таго «міфа»: «СМІ — чацвёртая ўлада» або — «Журналістыка — пятая вялікая дзяржава на палітычнай карце свету».

Як я неўзабаве пасля заканчэння ВНУ зразумеў, гэтае прафесарскае раздражненне апанентамі з іншага ідэалагічнага полюса мела сваю прыроду: савецкая журналістыка прымушана была абслугоўваць толькі гаспадароў з таго ці іншага паверха ўладнай піраміды. Прызначэнне гэтай журналістыкі было дакладна акрэсленае — выконваць ролю «прывадных рамянёў» КПСС, карэспандэнцкае меркаванне павінна заўжды супадаць з меркаваннем менавіта КПСС, дакладней — таго ці іншага партыйнага камітэта, чым органам з'яўлялася адпаведная газета. Але ўжо тады да нашага брата прабівалася інфармацыя, што на Захадзе сітуацыя іншая. Урадавых газет там практычна няма, а ёсць прыватныя, якія могуць выказваць і афіцыйны пункт гледжання на з'явы ды падзеі. Прычым колькі гаспадароў газет, столькі можа быць і меркаванняў, якія не заўсёды супадаюць з урадавымі. І нічога — капіталізм не рушыцца. У журналіста ёсць магчымасць знайсці «сваё» выданне: падабаюцца сацыялістычныя ідэі — ёсць такая газета, падабаюцца ідэі хрысціянскіх дэмакратаў — калі ласка, кіруй да іх і г.д. Словам, не трэба крывіць душой, падладжвацца, быць палітычнай прастытуткай.

Ну, а мы, у любой газеце, на радыё, на тэлебачанні павінны былі пісаць «у святле рашэнняў» чарговага з'езда «кіруючай і накіроўваючай сілы грамадства» ці мяняць прафесію. На пэўныя тэмы грамадскага жыцця было накладзена строгае «табу» — журналіст не меў права брацца за нешта такое, што не ўпісвалася ў мадэль «сацыялістычнага рэалізму».

Гарбачоўская перабудова, якая адчыніла шлюзы галоснасці, «табу» зняла з многіх забароненых раней тэмаў. Акрамя адной — крытыкі ЦК, АК, ГК і РК КПСС (КПБ). Вось тады ў інфармацыйным полі Беларусі і з'явілася «Народная газета». І яе канцэпцыя: крытыкаваць, нягледзячы на асобы, хваліць — таксама без аглядкі на начальства.

Тым не менш, Іосіф Сярэдзіч разумеў — патрэбна новая сістэма падачы інфармацыі. Уласна, гэта вынікала з характару Вярхоўнага Савета, які і быў заснавальнікам «Народнай газеты». А характар быў у заснавальніка няпросты. У Авальнай зале разгараліся баталіі

*Форумы*

# Да свабоды далекавата...

**Беларускі пэн-цэнтр у Доме творчасці «Іслач» правёў Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры «Незалежная прэса: свабода і адказнасць».**

Так, пастаянна дзеючы штогодні Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры, які праводзіць Беларускі пэн-цэнтр пры падтрымцы Беларускага фонду Сораса, ператвараецца ў сур'ёзны грамадска-палітычны фактар яднання творчай інтэлігенцыі нашай краіны, у фактар салідарнасці з ёю калег з блізкага і далёкага замежжа на грунце правоў Чалавека і правоў Нацыі, што тычацца свабоды слова і друку.

І, канешне, тыя неспрыяльныя ўмовы, у якіх апынулася цяпер беларускае слова ў «Беларусі, прымусілі з'ехацца і сёлета ў «Іслач» каля ста журналістаў, пісьменнікаў, праваахоўнікаў, навукоўцаў, палітолагаў і палітыкаў не толькі з нашай краіны, але і з Расіі, Украіны, Жамойці, Латвіі, Малдовы, Польшчы, Балгарыі, ЗША, Вялікабрытаніі, Даніі, Германіі, Ізраіля, Фінляндыі і Чэхіі.

Сярод іх — беларускія пісьменнікі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, вядомы публіцыст Анатоль Казловіч, прафесар Анатоль Грыцкевіч, галоўны рэдактар газеты «Литературные вести» Валянцін Аскоцкі (Расія), польскі пісьменнік Яцак Бахэньскі, кінадраматург, галоўны рэдактар кінастудыі «Летапіс» Самсон Палякоў, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прафесар Адам Мальдзіс, старшыня аргкамітэта Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Ліцвіна, дырэктар нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ Вера Багальянц (ФРГ), вядомая беларусістка Вера Рыч (Вялікабрытанія), дырэктар Беларускага інстытута навукі і культуры Вітаўт Кіпель (ЗША), паэт Міхаіл Забораў (Ізраіль).

Што ж казалі ўдзельнікі канферэнцыі ў сваіх дакладах пра становішча беларускага слова ў нашых грамадстве і дзяржаве? Пра яго свабоду ў СМІ? Вось толькі самыя кароткія вытрымкі з іх выступаў:

«І нерашучасць, і неўраўнаважанасць беларуская йдзе яшчэ й ад таго, што беларус не чуе родную мову ні на ўрадава-чынавенцкім узроўні, ні нават на побытавым, асабліва ў гарадах, якія планава засяляліся небеларусамі...» **(Рыгор Барадулін).**

«Вы, беларусы, ведаеце гэта лепей за нас, замежных гасцей, бо менавіта незалежнасць вашай прэсы сёння ў небяспецы. Вашу свабоду перш за ўсё спрабуюць задушыць...» **(Яцак Бахэньскі).**

«І ўжо сёлета, якраз у маі, падчас падпіскі на 3-ці квартал, былі сарваныя выпускі ці не ўсёй беларускамоўнай перыёдыкі, якая патрануецца Міністэрствам культуры і друку рэспублікі. Страту тыражам гэта палітыка нанесла каласальную: толькі газета «Наша слова» згубіла трэцюю частку падпісчыкаў...» **(Алесь Мікалайчанка).**

«...Па зместу, па духу «Літаратура і мастацтва», «Наша слова», «Культура», «Голас Радзімы», «Полымя» куды больш незалежныя, чым «грамадска-палітычная» «Цэнтральная газета»...» **(Адам Мальдзіс).**

«Але ж дзе там чакаць абароны справядлівасці ад нашых вучоных служак Феміды, калі і хамскі здзек з падранага, а юрыдычна ўсё яшчэ дзяржаўнага сцяга яны здолелі зневажальна кваліфікаваць як утылізацыю зношанага палотнішча?..» **(Генадзь Бураўкін).**

«Скажыце мне, якія газеты вы чытаеце, — я прадкажу, што будзе з вамі заўтра...» **(Анатоль Казловіч).**

Уласна, самыя цікавыя даклады газета «Наша слова» абавязкова надрукуе.

Вяртаючыся ж да кангрэса, які доўжыўся з 31 жніўня па 4 верасня, нельга не адзначыць той факт, што завяршэнне гэтага форуму прайшло пад знакам Алеся Адамовіча. Бо менавіта ў прысутнасці ўдзельнікаў кангрэса на станцыі Глуша — магіле гэтага мужнага і таленавітага пісьменніка-грамадзяніна быў адкрыты 4 верасня помнік. А яшчэ — уручаны прэміі імя Алеся Адамовіча тым журналістам, публіцыстам і кінематаграфістам-дакументалістам, якія прынцыпова адстойвалі дэмакратыю ў Беларусі, — Анатолю Казловічу, Паўлу Шарамету, Віталю Цыганкову, Валянціну Жданко, Самсону Палякову і Анатолю Алаю.

**Алесь СЕРГІЕВІЧ.**

паміж прыхільнікамі розных падыходаў да вырашэння той або іншай праблемы. І кожны бок жадаў, каб менавіта яму «Народная газета» ўдзяляла больш увагі. Асабліва, калі абмяркоўваліся важныя канцэптуальныя пытанні эканамічнага ці гуманітарнага накірунку: рынак, войска, адносіны з Захадам і з Расіяй, а яшчэ — мова і гісторыя Беларусі. Тады Іосіф Сярэдзіч у парадку абмеркавання, дыскусіі пачаў друкаваць аўтараў, чые погляды вельмі адрозніваліся між сабой. Так у беларускай прэсе ўзнік метад журналісцкага плюралізму. Я асабіста лічу, што менавіта гэты метад ва ўмовах перанасычэння чытачоў «пладамі галоснасці» спрычыніўся да пастаянна растучага інтарэсу да «Народнай». У яе з'явіўся свой твар: яна пераўтваралася ў трыбуну самавызначэння народа, асэнсавання свайго месца ў гісторыі і ў складаных узаемадачыненнях палітыка-эканамічных рэальнасцей паміж суб'ектамі былога СССР.

«Народная воля» ўзнікае ў іншых грамадска-палітычных умовах Беларусі, калі ўлада ўсё больш і больш скатваецца да аўтарытарызму, калі самыя агалцелыя сілы расійскага шавінізму павялі шырокі наступ на кволыя парасткі дэмакратыі ды нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. І як вынік — пераслед СМІ, што супрацьстаяць новай хвалі русіфікацыі ды прапаганды тэрытарыяльна-палітычнага альянсу з Расіяй,

можа прынесці карысці ўсяму народу». Самае важнае — быць чэсным...

Якімі ж бачацца Іосіфу Сярэдзічу старонкі «Народнай волі»? Мяркую, на адказе на гэта пытанне самога галоўнага рэдактара і выдаўца варта засяродзіць асаблівую ўвагу:

«...Па-першае, мы будзем усімі дазволенымі сродкамі адстойваць правы і годнасць кожнага чалавека. У полі зроку журналістаў, няштатнага актыву будуць грамадска-палітычныя, эканамічныя, маральныя праблемы. Пастараемся аператыўна і аб'ектыўна знаёміць чытачоў з навінамі як нашай краіны, так і блізкага, і далёкага замежжа. З гэтай мэтай ствараем шырокую карэспандэнцкую сетку на ўсім свеце.

**Ведаем**: сёння, як ніколі, чалавеку патрэбен добразычлівы і ненадакучлівы дарадца. Аб гэтым падумалі загадзя: падабралі высокакваліфікаваных вучоных і спецыялістаў такіх галін, як псіхалогія, медыцына, юрыспрудэнцыя, педагогіка, культура, быт і г.д. Усе тыя раздзелы, якія звычайна бываюць на старонках масавых і папулярных выданняў, яны будуць у «Народнай волі». Словам, мы хочам зрабіць такую газету, якая адпавядала б патрабаванням чытачоў самых розных густаў. Няхай яна служыць нашым нацыянальным інтарэсам, няхай апраўдвае спадзяванні ўсіх, хто лічыць сваёй радзімай Беларусь».

Што ж заяўка цікавая. Намер ухвальны.

казвалі, чаго дасягнулі людзі, якія рашуча і разумна пайшлі на рэформы, прымушалі ўсвядоміць кожнага, што толькі мы самі і зможам зрабіць сваё жыццё цывілізаваным, заможным.

А спадзяванне на свой розум «па Сярэдзічу» — гэта першы чыннік патрыятызму. Бо, калі спадзешся на ўласны розум, значыць спадзешся на сваю зямлю, на свой завод, на сваю справу, якія толькі і чакаюць таго, каб ты змяніў да іх адносіны, стаў гаспадаром. А гаспадар у стане змяніць усё жыццё: накарміць, абуць і апрануць народ, зрабіць сваю краіну па-сапраўднаму незалежнай.

**Культура, мова, гісторыя, палітыка**... Мусіць, матэрыялы на гэтую тэму пераважаюць у «НВ». Іх, прыкладна, па аб'ёму займаемай газетнай плошчы і колькасці больш, чым эканамічных, у два разы. І гэта не дзіва, бо газета — грамадска-палітычная. А самае «хворае» наша пытанне — нацыянальнае.

І мне, прадстаўніку нацыянальнай творчай інтэлігенцыі, вельмі было ўсцешна, што газета тут заняла пазіцыю абаронцы беларушчыны.

Ужо ў першым нумары «НВ» друкуе ліст Л.Шынкоўскага, 58-гадовага рабочага з Бабруйска, «Жывеш на Беларусі — паважай Беларусь!» Яна, гэта заметачка, заслугоўвае таго, каб быць поўнасцю працытаванай:

«Я — не нацыяналіст. Мне ўсё роўна, хто, акрамя беларусаў, жыве ў маёй краіне: татары, узбекі, туркі, рускія, украінцы — усе яны людзі, але законы і мову маёй краіны павінны паважаць і нават ведаць. Калі нехта спрабуе пляваць на наша слова — гэта значыць, ён не паважае і мяне як чалавека. Дык няхай жа ўцямяць нашы праваднікі, што наша мова — прыгожая мова, усім зразумела, што на нашай мове можна размаўляць, як кажуць, і дыпламатычна, і тэхнічна, і юрыдычна, а не зневажаць яе».

«Народная воля» дае таксама слова старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета, старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны Нілу Гілевічу, які свой выступ пачаў так: «Я заклінаю вас: не слухайце лжэпрарокаў, палітычных прайдзісветаў і авантурыстаў, якія абяцаюць нам рай у чужым шалашы!» І гэтае слова-роздум народнага паэта і грамадскага дзеяча пра горкі лёс беларускай мовы ў прысавецкіх і цяперашніх палітычных варунках стала ажно практычна самым важкім у нумары. Дазволю сабе толькі адну думку, якая асабліва ўрэзалася ў памяць: «...Свабода не дзеліцца. Больш таго, пачынаць трэба са свабоды душы, з суверэннасці духу, а мова і ёсць душа народа. Толькі свабодная душа даб'ецца палітычнай незалежнасці для Бацькаўшчыны, у якой і будуць створаны ўмовы для развіцця нацыянальнай эканомікі, прадпрымальніцтва, сацыяльнай сферы, навукі і адукацыі, культуры і мастацтва».

Запомнілася чытачам і эсэ Івана Макаловіча «Чаму чырвона-зялёныя сцягі толькі ў Буркіна-Фасо, Беніне, Бангладэш і Беларусі? Хіба месца нашай краіне ў гэтай кампаніі?», пісьмо жыхароў сталічнага мікрараёна Сухарава-2 пад красамоўным загалоўкам «Мы хочам, каб нашы дзеці вучыліся на беларускай мове» («НВ», № 5), артыкул намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета, кандыдата гістарычных навук Алега Трусава «У школе ўводзіцца цэнзура?» (№ 6), эсэ настаўніка і вядомага публіцыста Анатоля Сідарэвіча «Бедная школа» (№ 7). Ды і «Зварот ветэранаў-дэмакратаў да насельніцтва Рэспублікі Беларусь» («НВ», № 4) з ёмістым рэдакцыйным каментарам — публікацыя не шараговая. «...У дадзеным выпадку фармальна пытанні рэферэндуму, як вядома, не дамагліся адмены дзяржаўнасці беларускай мовы, — казалася ў каментары, — і пагаршэння яе становішча ў грамадстве. Аднак тая кампанія, якую разгарнулі некаторыя высокія чыноўнікі па ліквідацыі беларускай школы і націск на бацькоў, дзеці якіх хадзілі ў беларускамоўныя класы, сведчыць, што занепакоенасць ветэранаў-дэмакратаў мае ўсе падставы».

Карацей, за родную мову і культуру, за гісторыю без «белых плямаў» «Народная воля» змагаецца так, як некалі змагалася «Народная газета» (толькі энцыклапедычных гістарычных артыкулаў пад рубрыкай «Духоўны скарб» «НВ» змясціла дзесяць у сямі сваіх нумарах). Словам, у інфармацыйнай прасторы з'явілася новае адметнае перыядычнае выданне, здольнае сур'ёзна паўплываць на свядомасць нашых землякоў. Так што, відаць, праз некаторы час цяперашнія 85 тысяч тыражу «НВ» пераўтворацца ў 500 тысяч.

Праўда, многае будзе залежыць ад таго, наколькі «Народная воля» стане адметнай у параўнанні з першым «дзецішчам» Сярэдзіча. А «Народная газета» канчаць не збіраецца, апошнім часам значна павялічыла свой прэстыж у грамадстве і патэнцыял у яе значны (калі яшчэ раз не ўмяшаецца «бацька» і не пачнецца новы разгон найбольш таленавітых супрацоўнікаў). Але добрая канкурэнцыя выданняў будзе толькі на карысць нам, чытачам.

Так што ў добры час.

# воля»: першыя крокі

хвалі, якую «гоняць» тыя самыя сілы рукамі, на жаль, уладнага ачалення дзяржавы.

У выніку — і выхад газет з «белымі плямамі», і судовыя працэсы з журналістамі, і гвалтоўная змена (ажно да прыходу амонаўцаў у Дом друку з наручнікамі ды сабакамі!) галоўных рэдактараў у чатырох «вялікіх» газетах самай рознай палітычнай скіраванасці.

У выніку атрымалася так, што пасля павароту вядучых масавых газет толькі ў бок цяперашняй кіруючай наменклатуры (а да друкаваных мас-медыя дадайце яшчэ тэлебачанне, радыёвяшчанне, якія традыцыйна паслухмяныя высокаму начальству), практычна не засталося больш-менш дэмакратычных СМІ, адкуль можна было б займець аб'ектыўную інфармацыю, акрамя газеты, некаторых лічаных штотыднёвікаў, ды штодзённага «Добрага вечара» з дадаткам «Сталіца». Але «Добры вечар» са «Сталіцай» былі прыпыненыя з дапамогай эканамічнага прэсінгу (іх проста пазбавіў сваёй фінансавай падтрымкі заснавальнік — Менгарсавет), а штотыднёвікі «Свабода» і «Фемида» агульным накладам у 110-112 тысяч асобнікаў ды з перыядычнасцю раз у сем дзён не маглі наталіць народны попыт на праўдзівую інфармацыю. Не ішла на прамое абвастрэнне адносін і «Звязда»...

Праўда, убачыўшы, што тыраж у трэцім квартале скараціўся больш чым на 300 тысяч падпісчыкаў (!), «Народная газета» пачала патроху вяртацца да агульнадэмакратычнай канцэпцыі падачы матэрыялаў. Гэта, канешне, «наверсе» не засталося незаўважаным, і цяпер новы галоўны рэдактар «Народнай», калі верыць інфармацыі, якая прамільгнула ў друку, рыхтуецца да адстаўкі: словам, абставіны хісткія, ненадзейныя.

Вось тут і з'яўляецца «Народная воля».

Што ж у такіх умовах яна прапануе чытачам? Якую нішу ў інфармацыйнай прасторы збіраецца заняць?

Ды ўсё тую ж самую, якую займала «Народная газета» Іосіфа Сярэдзіча. Хаця, трэба прызнаць, гэта будзе праблематычна, калі тэндэнцыя свайго аднаўлення ў сённяшняй «Народнай» падоўжыцца.

Праўда, Іосіф Сярэдзіч у першым нумары «НВ» у рэдактарскай калонцы абяцае чытачам, што новае выданне будзе катэгарычна адрознівацца ад дзяржаўнай прэсы, якую аўтар называе халуйскай.

У якасці доказу такога халуйства ён паказвае, як перакруты «вертыкальная» прэса падае чытачу вынікі нядаўняга рэферэндуму, што здзівіў сусветную супольнасць сваёй няўцямнасцю, мякка кажучы.

«...На працягу многіх тыдняў афіцыйная прэса, радыё, тэлебачанне ўслаўлялі трыумф рэферэндуму. Хаця які ж гэта трыумф, — піша Іосіф Сярэдзіч, — па пытанню сімволікі «за» выказалася толькі 48,6 працэнта ад усёй колькасці выбаршчыкаў, па парламенту — 50,3 працэнта, па інтэграцыі з Расіяй — 53,5, па моўнаму пытанню — 53,9 працэнта. Прапагандысты-лакеі спецыяльна замоўчвалі і замоўчваюць гэтыя лічбы, а высоўваюць толькі тыя, якія атрымаліся ў выніку падліку «прыйшоўшых на выбарчыя ўчасткі». Але ж на адной зямлі жывуць і тыя, хто з бел-чырвона-белым сцягам звязвае нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны, яе заўтрашні дзень, і тыя, хто семдзесят гадоў будавалі «светлае будучае» і гатовы верыць у гэты міф да апошніх дзён свайго жыцця. Хлусня прэсы, радыё, тэлебачання на карысць адных не

Але, заўважым, у гэтым намеры адсутнічаюць планы дэманстрацыі палітычнага плюралізму. Час іншы: трэба абараняць чалавека, народ, суверэннасць краіны.

Ну, а як намеры ўвасабляюцца ў публікацыі? Сем першых нумароў «Народнай волі», здаецца, пацвярджаюць, што абяцанні галоўнага рэдактара не разыходзяцца са справай, перш-наперш актыўна прапагандуецца Беларускае Адраджэнне ва ўсіх яго іпастасях, шматграннасці і шматаблічнасці.

Праўда, калі гавораць пра Беларускае Адраджэнне, то многія найперш асацыіруюць гэты тэрмін з нацыянальнай культурай і мовай. Так, гэта абсалютна правільна. Тым не менш адраджаць трэба і эканоміку, і экалогію, і здароўе, генафонд нацыі. Іначай, прабачце, каму патрэбна будзе мова і культура, калі мы павымiраем усе давызнання?

Вось чаму я, напрыклад, застаўся задаволены пазіцыяй «НВ» у справе адраджэння нацыянальнай эканомікі — яе трэба тэрмінова выцягваць з крызісу шляхам рашучага рынкавага рэфармавання прамысловасці ды сельскай гаспадаркі. Мне спадабалася, што шмат у якіх матэрыялах аўтары ставяць за прыклад практыку заахвочвання дробнага і сярэдняга бізнесу ў цывілізаваных краінах свету, у тым ліку аналізуюць сталяванне рынку ў Расіі, адзначаюць адметнасць шляху беларускіх рэформаў, паказваюць усю ілюзорнасць спадзяванняў тых, хто хоча нашыя праблемы вырашыць за кошт інтэграцыйных працэсаў, зліцца з вялікім усходнім суседам. Пералічу толькі загалоўкі некаторых «эканамічных» матэрыялаў «НВ», якія мне асабліва кінуліся ў вочы. Інтэрв'ю, узятае агенцтвам РІД, — «Яўген Крауцоў, кіраўнік «Мінск Комплексбанка»: «Мы не ўдзельнічаем у палітыцы, але паводзім сябе так, як павінен паводзіць сябе палітык»; «Як Віктар Міргарадскі «вяртае прыгоннае права» і што з гэтага атрымліваецца» — артыкул Міколы Дубравенскага аб вопыце паспяховага пераходу ў рынкавую эканоміку магілёўскага калгаса «Камінтэрн»; «Мінуў адзін год, як Беларусь выбрала прэзідэнта. Што за гэты час адбылося?» — падборка выказванняў Аляксандра Лукашэнкі, Уладзіміра Заблоцкага, Аляксандра Дабравольскага, Васіля Новікава.

«Цемра ўлады, або аб карысці асветніцкай палітыкі» — гэты артыкул паліталога Анатоля Майсені супраць цемрашальства маючых уладу ў іх адносінах да рынкавых рэформ заўважылі і станоўча ацанілі многія.

«Што трэба зрабіць, каб заводы і фабрыкі запрацавалі ў поўную сілу?» — бліц-інтэрв'ю з Уладзімірам Карагіным, прэзідэнтам Беларускага саюза прадпрымальнікаў, Міхаілам Лаўрыновічам, прэзідэнтам Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, і Францам Вітко, намеснікам старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі; «Упаўнаважаныя не накармілі краіну і не накормяць» — карэспандэнцыя Сяргея Казакевіча.

«Чырвоныя дырэктары» вядуць завочную дуэль з прэзідэнтам. Хто пераможа?» — артыкул Івана Калінкіна.

Раман Унучка: «Гаварыць аб рабоце і рабіць — гэта зусім не адно і тое ж. Як трапна кажуць адэсіты, гэта дзве абсалютна розныя рэчы» (інтэрв'ю).

Пералічаныя матэрыялы надрукаваныя адны на расійскай, іншыя на беларускай мовах — хто на якой змог, на той і сказаў пра важнае, набалелае. Галоўнае ж — усе публікацыі падказвалі, у які бок рухацца, па-

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА, рэдактар культурна-грамадскага аддзела «Нашага слова», навуковы кансультант Інстытута праблемаў культуры.**

### Пытанне — адказ

## Удзячны за газету

***Шаноўная рэдакцыя, перш за ўсё дзякую за газету. Выпісваю і чытаю «Наша слова» з самага пачатку існавання. Газета вельмі патрэбная, і я задаволены яе зместам. Але было б пажадана, каб вы больш падрабязна і дэталёва пісалі аб важных падзеях у Беларусі. Вось адбылося свята Незалежнасці нашай дзяржавы 27 ліпеня, а ў «Нашым слове» надрукаваны толькі маленькі артыкул, дзе вельмі сцісла сказана, як праходзіла свята ў Менску ля помніка Янку Купалу, і паведамлена, хто выступіў. Але вельмі было б цікава ведаць, аб чым гаварылі выступоўцы. Ніводнай прамовы вы не надрукавалі. Праўда, прамову Ніла Гілевіча мне ўдалося прачытаць у газеце «Літаратура і мастацтва», бо выпісваю і гэтае дэмакратычнае выданне. А дзе ж, скажыце, прачытаць прамовы Пазьняка, Баршчэўскага, Знаўца, Янкі Запрудніка і іншых аратараў? Можа, гэта было небяспечна надрукаваць, то прашу Вас, шаноўны рэдактар, выслаць мне тэксты на любых умовах, праўда, калі і гэта магчыма. У нас, у мястэчку Старобін, ніякага свята не было, а проста яшчэ адзін выхадны, нават сцягоў ніхто не вывешваў — ні бел-чырвона-белых, ні чырвона-зялёных. Тым не менш дома, у коле сям'і некаторыя старобінцы свята Незалежнасці ўсё ж адзначылі.***

***Яшчэ адно запытанне. На ваш зварот аб фінансавай дапамозе мною пералічана цераз Ашчадны банк на рахунак № 700510, код 764 Белбізнесбанка 50 тысяч рублёў. Хоць гэта грошы невялікія, але хочацца быць упэўненым, што яны трапілі па прызначэнню.***

***Жадаю ўсім супрацоўнікам рэдакцыі добрага здароўя і поспехаў у працы на карысць нашай роднай Беларусі!***

**Адам ГУРЫНОВІЧ, пенсіянер, 70 гадоў.**
м.Старобін.

**Ад рэдакцыі**: Паколькі пытанні, узнятыя нашым шаноўным чытачом, маюць не толькі прыватны характар, мы вырашылі адказаць на іх праз газету.

Выступленні на мітынгах простым журналістам запісваць у цяперашніх умовах даволі складана. Гэта могуць толькі спецслужбы з іх адпаведна падрыхтаванымі кадрамі і дасканалай аўдыётэлетэхнікай, якая каштуе вялікіх грошай. Далёка не ўсё можа надрукаваць наша газета і з-за свайго невялікага памеру і перыядычнасці. Наша выданне разлічана хутчэй на аналітычную інфармацыю, чымся на разгорнутыя справаздачы. Тым не менш, мы абавязкова ўлічым чытацкія пажаданні і будзем больш падрабязна знаёміць са зместам выступленняў, а часткова і друкаваць некаторыя цалкам, як мы іншым разам, дарэчы, і рабілі, нягледзячы на тэхнічныя складанасці. А ў далейшым, калі ўсё ж неяк набудзем добрую тэхнічную і матэрыяльную базу, абавязкова знойдзем магчымасці больш поўна паведамляць пра ўсе важныя падзеі. Хоць і цяпер рэдакцыя імкнецца, каб чытач газеты меў поўнае ўяўленне аб грамадска-культурным жыцці беларусаў, у тым ліку замежжа.

Грошы Вашы, шаноўны Адам Мікалаевіч, паступілі на рахунак ТБМ. Дарэчы, зварот быў не рэдакцыйны, а Сакратарыята ТБМ, які ў бліжэйшы час абяцае апублікаваць прозвішчы тых, хто адгукнуўся на заклік аб матэрыяльнай падтрымцы. Прыміце і ад нас шчырую падзяку, шаноўны Адам Мікалаевіч. Карыстаючыся нагодай, просім усіх нашых чытачоў-сяброў знайсці магчымасць не толькі падпісацца на газету самім, але аформіць падпіску на «Наша слова» сябру, школе. Кошт падпіскі, дарэчы, значна таннейшы, чымся сапраўдныя выдаткі на выданне газеты. Мы гэта робім дзеля таго, каб газету маглі выпісаць школьнікі, студэнты, якім яна, спадзяёмся, будзе добрым дарадцам у вучобе і грамадзянскім, патрыятычным самавыхаванні.

*У пошуках ісціны*

# Што абараняе рэцэнзентка?

З наданнем нашай краіне статуса незалежнай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь — стала адраджацца наша культура і мова. Але працэс гэты ідзе марудна, бо не ўсе яму спрыяюць. І гэта не выпадкова: надта ж глыбокія карані пусціла шматгадовая былая дзяржаўная палітыка, якая, паводле трапных справядлівых словаў народнага паэта Беларусі, прафесара, старшыні Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ніла Гілевіча, «была накіравана на русіфікацыю ўсіх этнасаў на тэрыторыі СССР і на ўтварэнне адзінай «новай гістарычнай супольнасці — савецкага народа» — з адзінай, канешне, рускай мовай, а значыць — на ўтварэнне ў рэшце рэшт адзінага рускага народа. Шляхі і спосабы асіміляцыі былі самыя розныя... Поўнае засілле рускай мовы ў інфармацыйнай прасторы...» («Народная воля». 1995, № 1).

Дзеля адраджэння нашай мовы — галоўнага інструмента нацыянальна-культурнага адраджэння — сёння ўжо робіцца нямала. Праведзены І і ІІ Нацыянальныя канферэнцыі «Беларуская навуковая тэрміналогія». Выйшлі з друку новыя тэрміналагічныя слоўнікі. Надрукаваны шэраг артыкулаў, прысвечаных дэрусіфікацыі нашай культуры і мовы. Ідзе «прыярытэтная арыентацыя на сродкі роднае мовы, імкненне надаць тэрмінам нацыянальнамоўнае аблічча з выкарыстаннем адметнай лексікі, тыпова беларускіх словаўтваральных суфіксаў і мадэляў,» — справядліва канстатуецца ў «Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ» (Мн., 1993). І ў «Русско-белорусском математическом словаре» (Мн., 1993) бачым гэты працэс дэрусіфікацыі — «исключение русизмов и слов, образованных по чуждым белорусскому языку моделям (прэдзел, прадстаўленне, убываць, слов з суффиксами **-ір**, **-ем**, **-уч**, **-юч**»).

На пачатку 1994 года Беластоцкай філіяй Варшаўскага універсітэта быў выдадзены трохмоўны Slownik terminologii lingwistycznej (białorusko-rosyjsko-polski i polsko-rosyjsko-białoruski). У даведніку ўлічаны новыя тэндэнцыі ў беларускай навуковай тэрміналогіі, пададзены шэраг натуральных беларускіх тэрмінаў.

Але вось у штотыднёвіку «Наша слова» (№ 32, 95) з'явілася на яго рэцэнзія Ганны Арашонкавай пад назвай «Параўнаем». Аўтарка настойліва імкнецца абараніць ранейшы — зрусіфікаваны стан беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі (гл. пра гэта артыкул «Наша мова — мова навукі: Праблемы нармавання лінгвістычнай тэрміналогіі» — «Роднае слова», 1995, № 4). Яна піша: «У апошні час намецілася тэндэнцыя замены тэрмінаў з суфіксам **-уч (-юч)**, **-ач (-яч)** іншымі суфіксальнымі ўтварэннямі. Напрыклад, замест *дзеючая асоба — дзейная асоба*, замест *утвараючая аснова — утваральная аснова,* замест *кіруючае слова - кіравальнае (кіроўнае) слова,* замест *падаючая плынь — спадальная плынь* і інш.

Аднак такая замена не заўсёды апраўдана як з боку сістэмнасці ў мове, так і з боку семантыкі». Далей у рэцэнзіі ідзе абарона гэтых «лямантуючых» утварэнняў з суфіксам **-ач**, **-уч**. Напрыклад, у тэрміналагічных словазлучэннях *дрыжачы зычны, дрыжачы гук* слова *дрыжачы* ў Слоўніку заменена на *дрыготкі...* парушана словаўтваральная сувязь з іншымі тэрмінамі.

Рэцэнзентка за аднаўленне тэрміна «дрыжачы» гук, як і «гаворачая асоба». «Слова гаворачая суадносіцца з дзеясловам гаварыць. Параўн. рас. *говорящее лицо (говорящий)* польск. *mowiący* ад *mówić «гаварыць».* З яе гледзішча, слова *моўнік* таксама штучнае. Але ж *моўнік* якраз і стасуецца з дзеясловам *мовіць,* якое Тлумачальны слоўнік падае з тым самым значэннем, што і *гаварыць.* Да таго ж, апошнім часам замест гэтай штучнай для беларускай мовы калькі «гаворачая асоба» (рас. *говорящее лицо)* выкарыстоўваецца і *размоўца* (той, хто размаўляе).

Не задавальняе Г.Арашонкаву і паралельнае выкарыстанне ў Слоўніку тэрмінаў *запазычаны* і *пазычаны, запазычанне* і *пазычанне.* Яна супраць сваіх адметна беларускіх беспрыстаўкавых словаў, якія маюць народную аснову, *пазычаць, пазычанне, пазычаны,* «таму ў рэцэнзуемым слоўніку трэба было даць толькі «запазычаны — запазычанне, запазычванне». Далей яна тлумачыць: «Варыянты без прыстаўкі **за-** адрозніваюцца ад варыянтаў з прыстаўкай **за-** па значэнні або не ўжываюцца наогул. Напрыклад, пазычаны — такі, які ўзяты (або дадзены) на час, які трэба аддаць, вярнуць..., пазычаць — даваць каму-н., што-н. у доўг або браць у доўг, на пэўны час...». Але ж гэтыя высновы рэцэнзенткі не адпавядаюць рэчаіснасці. «Русско-белорусский словарь» 1993 года (т.2, с. 497) сведчыць, што згаданыя беспрыстаўкавыя і прыстаўкавыя словы выкарыстоўваюцца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, як паралельныя тэрміны са значэннем расійскага «перенять». На с. 497 2-га тома чытаем: «Перенятый... 2. пазычаны, запазычаны: перенять... 2. (заимствовать) пазычыць, запазычыць; перенимать... 2. (заимствовать) перен... пазычаць, запазычаць, запазычваць».

Як бачым, са значэннем рас. «заимствовать», «заимствованный» Слоўнік нават на першае месца выносіць беспрыстаўкавыя варыянты. Гэта засведчана і «Русско-белорусским словарём» 1982 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы, дзе ў другім томе на с.40 бачым абсалютна тое самае. І таксама на першым месцы стаяць беспрыстаўкавыя варыянты. Дык ці не ўводзіць Г.Арашонкава ў зман чытачоў у дачыненні тэрмінаў пазычаныя словы, «пазычаць словы». Яшчэ акадэмік Язэп Лёсік, дырэктар Інстытута навуковай мовы, у дваццатыя гады пісаў: «Бяда не ў тым, што літаратурная мова часам *пазычае словы, пазычаць* трэба, калі іх няма, зусім неразумна браць чужыя словы, калі ёсць свае, беларускія». Калі кіравацца высновамі рэцэнзенткі, то Язэп Лёсік памыляўся, пішучы гэтыя радкі. Або вось наш слынны прапагандыст беларускага слова пісьменнік Уладзімір Юрэвіч у кнізе «Слова жывое, роднае, гаваркое» (Мн., 1992), уганараванай Дзяржаўнай прэміяй, піша: «Слова ўтворана ад дзеяслова «вітацца». *Слова пазычанае,* корань яго трэба шукаць у лацінскай мове, дзе ёсць *vita,* што значыць «жыццё». Або на с. 82: «Ада, Адалаіда, Адэлія. Усе гэтыя *імёны пазычаныя».* І далей (с. 107): «Усе кананічныя *імёны* былі *пазычаны».* Калі верыць Г.Арашонкавай, то ўсе гэтыя кананічныя імёны ўзяты на час і іх «трэба аддаваць назад». Але ж іх ніхто не вяртае. Як і ўсе пазычаныя словы. Вось якая рэчаіснасць.

Адвольна, на свой густ, дзеля «доказнасці» сваіх высноваў, абыходзіцца рэцэнзентка і са значэннем іншых — адметных ад расійскіх — словаў. Так, яна супраць таго, што ў Слоўніку падаюцца словы *шэраг* і *гурт* як сінонімы да *рад,* бо з яе гледзішча, яны таксама адрозныя. Але звернемся зноў да лексікаграфічных прац.

Слова *шэраг* яшчэ ў адраджэнскія 20-я гады выкарыстоўвалася са значэннем рас. «ряд». Гэта зафіксавана і ў «Беларускарасійскім слоўніку» М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926). На с. 354 чытаем: *«Шэраг* м. — *шеренга; ряд».* «Беларускарускі слоўнік» 1988-89 пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы падае слова шэраг з тым значэннем, што і рас. *ряд.* У другім томе на с. 725 чытаем: *«Шэраг*, -гу м. в разн. знач. *ряд; шэраг дамоў — ряд домов; шэраг пытанняў — ряд вопросов».* Тут падаецца і ўстойлівае спалучэнне: «у першых шэрагах — в первых рядах». «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 5, кніга 2. Мн., 1984, с. 437) так тлумачыць значэнне гэтага слова: «*Шэраг,* -а, м. 1. Сукупнасць аднародных прадметаў, размешчаных адно за адным, у адну лінію. 2. Сукупнасць чаго-н., што ідзе адно за другім у пэўным парадку».

Слова *гурт* у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 2, Мн., 1978, с. 98) падаецца і са значэннем «Група якіх-небудзь аднародных прадметаў». Ад слова *гурт* утвораны дзеяслоў *гуртаваць* — «групаваць, канцэнтраваць»: А ваш абавязак... збіраць народ, гуртаваць яго ў баявыя групы. Колас. (Тамсама).

Як відаць, словы *рад, шэраг, гурт* выступаюць у беларускай мове і з сінанімічнымі значэннямі. Рэцэнзентка ж спрабуе адкінуць адмысловыя параўнальна з расійскаю моваю тэрміны *шэраг* і *гурт,* паказваючы ў рэцэнзіі толькі іх асобныя значэнні і апускаючы супольныя. «Таму, — піша Г.Арашонкава, — у тэрміналагічных спалучэннях са словамі «сінанімічны», «фанемны» мэтазгодна захаваць слова «рад», бо яно ўжываецца «на працягу доўгага часу». Далей раіць «даць незамкнуты рад слоў замест незамкнуты шэраг слоў». Рэцэнзентка і за тэрмін «племянная мова» (Як і *племянная* карова!), супраць новага слова — утварэння з высокавалентавым (спалучальным) суфіксам **-ев**: племевы дыялект (г.зн. уласцівы племю). Г.Арашонкава патрабуе, «каб аўтарскі калектыў у будучай працы па перавыданні пазбягаў замены ўвайшоўшых у лінгвістычную практыку тэрмінаў на новыя». У гэтым — уся ідэя рэцэнзіі: захаваць усё як было, бо «яно замацавалася ў практыцы». Хоць добра ўсім ведама, што гэта была за практыка.

Калі б рэцэнзентка пазнаёмілася з новымі публікацыямі па тэрміналогіі, у іх ліку і лінгвістычнай, то, мажліва, яна прыхільна паставілася б і да новых тэрмінаў у рэцэнзаваным Слоўніку.

**Павел СЦЯЦКО,**
**прафесар, старшыня Гродзенскай абласной Рады ТБМ імя Францішка Скарыны.**

*Творчасць нашых чытачоў*

*Вера БУЛАНДА*

## Надзея памірае апошняй...

Смяецца той, смяецца хто апошні...
О, дай жа, Бог, ратункам у жыцці
Мне пасмяяцца з тых, хто дзеля грошай
На здраду ці панель гатоў пайсці.

Хто ўмее жыць па-свойму, нажывацца,
Сумленнем ахвяруючы. І ў пыл
Ператвараючы маральныя багацці,
Перарабляць жыццё на свой капыл.

Хто асудзіў на выжыванне рэкі,
Забрудзіўшы нядбайнасцю тупой,
Дзе птушкам не пад сілу нават рэквіем
І зверу не да смаку — вадапой.

Хто мову адмаўляе як крыніцу
Жыцця майго і дарагіх уцех.
А як і чым нам будзе прычасціцца,
Калі прычасце пушчана на здзек?

Не навіна — насмешка злога року
Праследуе адданых дабрыні:
Не зробім без падножкі ані кроку,
І не жывем з падтрымкаю ані.

Настырна тку, нанізваю на кросны
Ад продкаў мудрасць кінутую нам:
Смяецца той, смяецца хто апошні
Гаючая надзея, як бальзам.

***

Ну, што ж, — не такая, як вы,
Няхай жа мы ўсе будзем розныя.
Толькі ж да роднай травы,
Толькі ў раніцы росныя
Не забывайцеся вы
Прыходзіць са мною босымі.

Паважаная рэдакцыя!

Нярэдка даводзіцца чытаць у газетах развагі аналітыкаў, творчых людзей, дзе яны шукаюць адказу, чаму так люд беларускі паставіўся негатыўна да роднай мовы, галасуючы на рэферэндуме. Іх зразумець можна. Аднак, мне здаецца, — час сказаць адкрыта і пра тое, што і творчая інтэлігенцыя, бадай, у сваёй большасці была вінаватая ў гэтым. І частка яе і цяпер свядома ці несвядома працягвае заставацца ў слёзнай настальгіі па былым, хаця піша на роднай мове, супраць якой быў арганізаваны апыт. Аб гэтым мой верш, які прапаную.

**Аўтар.**

*Мікола ДУБОЎСКІ*

## Настальгія

Часам верш прачытаю ў газеце
І няўцямлю ягоны сюжэт —
Перапёлкай самотнай па леце,
Па Былым там галося паэт.
Што пазбаўлены сёння прысмакаў,
А былі ж... кілбаса ды ікра.
Ганарары — што коцік наплакаў,
Болей кніжкі не йдуць на-гара.
А здаралася часам і Першы
Неспадзёў да сябе запрашаў,
За адданыя Партыі вершы
Па-сяброўску руку паціскаў.
А цяпер хоць жывы, а забыты.
І не дзе, а ў родным двары.
Апынуўся ля ночваў разбітых,
Як у казцы вядомай, стары.

* * *

Вось такая ў яго настальгія.
І не скажаш нічога ты тут —
Калі просіцца рабская шыя
У былы і жаданы хамут.
Што ГУЛАГ для яго, Курапаты!
Выракаецца мовы бацькоў.
Не шкада нават роднае хаты.
Толькі дайце Саюз яму зноў.

*Уражанні*

*Мікола КАПЫЛОВІЧ*

## Як зладзеяў пладзілі

— Падваліны падгнілі ў хаце. Скрывіла сцены, скасабочыла. Ну, не хата, а інвалід. Толькі замест кастылёў падпоры ёй падавай. Напісаў я ў сельсавет заяву, каб лесам памаглі. І занёс. Месяц чакаю, два. Трэці пайшоў. Ціха. А хата тым часам зусім пачала рассыпацца. Нават дах паехаў. Не вытрымаў і зноў пайшоў у сельсавет. Не можа таго быць, думаю, каб мне, франтавіку і былому калгаснаму трактарысту, лесу не выпісалі. Зайшоў. А там ужо новы старшыня сядзіць. Малады, шустры такі. Пачаў шукаць у стосе маю заяву. Усе паперы перакапаў: у стол залез з галавою, але не знайшоў. Згубілася недзе. Потым кажа: «Я тут новы чалавек. І вашай заявы не бачу. Пішы новую». «Ды вас, — адказваю, — па чатыры разы на год мяняюць. Дайце лесу, бо хата вось-вось перакуліцца». «Без заявы не дамо», — гаворыць новы старшыня. Зноў напісаў. Зноў чакаю. Прагналі і гэтага шустрага за п'янкі. Зноў новага прыслалі. Але да гэтага я не пайшоў прасіць лесу. Выгнаў гарэлку, падпаіў трактарыста, і ён цэлы прычэп бярвенняў з лесу мне прывалок. Украў. Вось так савецкая ўлада сваіх зладзеяў пладзіла.

## Данос на сябе

— Які, пытаеш, адразу пасля вайны ў нас быў старшыня сельсавета? Сляпы на адно вока. Пісаць і чытаць не ўмеў. Затое моцна крычаў на людзей, каб нядоімкі плацілі. І за падаткі людзей садзіў у турму. Потым і яго пасадзілі. За што, пытаеш? Адзін наш калгаснік, Міканор, напісаў заяву ў міліцыю. Ад імя гэтага старшыні. А ў тым даносе было такое: «Я, Сцяпан Крукоўскі, у час вайны быў нямецкім агентам у партызанах, а цяпер прабраўся рабіць старшынёй сельсавета і даю сакрэтныя звесткі амерыканскай разведцы, зрываю падаткі ў фонд дзяржавы. І, каб прыкрыць свае злачынствы перад савецкай уладай, афармляю ў суд калгаснікаў, каб разваліць калгас».

Напісаў Міканор такую заяву і панёс Крукоўскаму, каб той пячатку на ёй паставіў. П'яны старшыня і заверыў. І Міканор паслаў тую заяву ў міліцыю. Праз тыдзень не стала Крукоўскага. Пасадзілі.

## Ваўкалака

— Бач, вунь Антон пайшоў. Некалі старшынёй калгаса ў нас быў. І не прасыхаў ад гарэлкі. Нап'ецца — і давай кулакамі махаць. Каму па шчэлепах, каму пад дых. Так на работу ў калгас людзей гнаў, каб на нішчымныя працадні рабілі. І нікому не даваў сена выкасіць. Жаць нават асаку не дазваляў. Паганы быў чалавек. Жыла я тады ў сваёй хацінцы. З маленькімі дзеткамі: адно другога не панясе. Мой чалавек на вайне галаву паклаў. І вось аднаго разу нажала сярпом у карчах асакі. Дала ёй высахнуць, потым зграрнула ў посцілку, закінула за плечы і панесла тое сянцо дамоў. І раптам чую: з-за маёй спіны дымам цягне. Азірнулася — сена ў посцілцы гарыць. Скінула ношку з плеч і давай тое сена тушыць нагамі, лыткі апякла. Хацела посцілку выратаваць з агню. Згарэла ўсё ж яна. А Антон у гэты час стаіць воддаль і аж на зямлю кладзецца ад рогату. Так смешна яму было, што за маёю спіною сена падпаліў. Вось якім ірадам быў Антон. Калі старшынёю быў. Ён і цяпер такі. Бач, на людзей воўкам глядзіць. Ну, чыста ваўкалака.

## Абцыганіла

— Сяджу я дома, абед рыхтую. І раптам — званок у дзверы. Адчыняю. Цыганка на парозе стаіць. Разам з цыганёнм. Кажа мне: «У мяне, паненачка, ёсць пяць упаковак французскай парфумы. Купляйце, даражэнькая. Дэфіцыт! Нідзе такой не дастанеце. Па сходнай цане прадам. Я дома ўпакоўкі пакінула. Дай наперад грошы. Тады я пабягу па дэфіцыт. А пад заклад я табе свайго сыночка пакіну». Паверыла, аддала ўсе грошы, якія былі ў кватэры. Пабегла цыганка дамоў па дэфіцыт. А я зноў пайшла на кухню абед варыць. Вару і чакаю. А цыганкі ўсё няма і няма. Зірнула ў гасцінную, дзе цыганка сваё дзіцятка пакінула. А цыганяці там няма. Праз акно ўцёк. Прыйшоў мой Сяргей з работы абедаць. Я яму і расказала, што здарылася. Дык ён мне той абед ледзь не вывярнуў з посуду на галаву. Вось як мяне цыганка абцыганіла.

